Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі! Падпішыцеся на першую палову 2013 года!

№№171–172
(3710–3711)

2 лістапада 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДАСЛОЎНА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА (падчас выступлення на выканкаме НАК):

“Што датычыцца Рачкоўскага, тут шмат разважанняў, асабліва апазіцыянеры злараднічаюць, што ён не справіўся — дык яго ў спорт, — *цытуе Лукашэнку БЕЛТА.* — Калі б ён дрэнна спраўляўся са сваёй ранейшай работай, то ён у кабінет да прэзідэнта не зайшоў бы... Але ў жыцці чалавека ўсялякае бывае, так здарылася і ў яго, калі яго падначаленыя здзейснілі, здавалася б, дробны, непрыкметны факт, але ён выклікаў вялікі грамадскі рэзананс у нашым грамадстве. Пасля гэтага людзі ў любой краіне выходзяць у адстаўку, прымаючы парушэнні сваіх падначаленых па службе як свае. Так зрабіў і Ігар Рачкоўскі — ён падаў рапарт на імя прэзідэнта аб адстаўцы. Я мог бы не прыняць гэтую адстаўку, але гэта было б няправільна. Вы ведаеце гэты выпадак — два генералы за гэта папаціліся. Але я не магу прад’явіць яму прэтэнзій у плане жадання працаваць, у плане вялікіх зрухаў, якія адбыліся ў тым ведамстве, якое ён узначальваў”.

“Я не шукаў гэтыя кандыдатуры сярод так званых спецыялістаў ад спорту. Таму што мяне насцярожвае не толькі бяздзейнасць былых кіраўнікоў, але і факты карумпаванасці гэтых людзей. Таму кланавасці трэба было пазбегнуць, і таму прызначаў і рэкамендаваў людзей з боку. Гэта людзі, якія разумеюць і любяць спорт”.

“Надышоў час новага пакалення палітыкаў ва ўсіх сферах і па ўсіх напрамках. Сёння наша задача — спакойна, без усялякага шуму і гвалту прывесці да ўлады нармальных маладых палітыкаў — 40—45 гадоў, да 50 гадоў”. “Вечна сядзець цяперашнія кіраўнікі ў крэслах не будуць”.

“Я не прыхільнік таго, каб у 25 гадоў прызначаць міністрамі, і не толькі таму, што гэтыя людзі нявопытныя, а важна, як яго будуць успрымаць, калі ён прыйдзе і пачне кіраваць людзьмі з вялікімі пагонамі. Я гэта праходзіў, у 38 гадоў стаўшы прэзідэнтам, і вельмі добра гэта ведаю. Я зразумеў, што ўсяму павінен быць свой час, у тым ліку што датычыцца ўзросту, вопыту людзей”.

СКАНДАЛ

# Усё не так!

*Зянон Пазьняк з замежжа схітрыўся стаць героем беларускай афіцыйнай прапаганды, навешаўшы ярлыкоў на тых, хто спрабуе хоць нешта рабіць тут, на Радзіме.*

“У Беларусі няма сапраўднай апазіцыі”, — так называецца артыкул, які, адштурхоўваючыся ад інтэрв’ю Пазьняка Interpolit.tv, распаўсюдзіла дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БЕЛТА. Тэму падхапілі дзяржаўныя тэлеканалы.

З прамоў Пазьняка вынікае, што ледзь не ўсе мы тут агенты — альбо расійскага ФСБ, альбо заходніх спецслужбаў. Дасталося нават тым, хто ўсяляк узнімае тэму Курапатаў і зараз спрабуе аб’яднаць намаганні, каб не дапусціць адкрыцця побач з месцам расстрэлаў забаўляльнага комплексу.

І гэта дрэнна! Зянон Пазьняк заявіў, што Курапаты не могуць стаць сімвалам яднання, і проста абразіў некаторых людзей, якія спрабуюць супрацьстаяць руйнаванню памяці пра тых, хто загінуў у гэтым жудасным месцы. Пазьняк лічыць, што ўсё робіцца не тымі і не так.

“Па-першае, памяць аб продках трэба будаваць на памяці продкаў, а не на міфах. Гэты гісторык (маецца на ўвазе Ігар Кузняцоў, які найбольш актыўна друкуецца па гэтай тэме. — **Рэд**.) ніколі не даследаваў Курапатаў. Ён не археолаг, не ведае, што гэта такое, і не мае ніякага маральнага права займацца тым, чым займаецца...” “Спецслужбы ствараюць арганізацыі, якія нібыта займаюцца ўрочышчам, але насамрэч намагаюцца па-свойму трактаваць гістарычныя падзеі. Вось глядзіце, як з’явілася справа з гэтым рэстаранам. Хто быў першым абаронцам? Дзмітрыеў. Дзмітрыеў, які заклаў у 2010 годзе іх усіх! Уся агентура там”, — заявіў Зянон Пазьняк.

Кампанія “Гавары праўду!”, адным з кіраўнікоў якой з’яўляецца Андрэй Дзмітрыеў, сапраўды выступіла з ідэяй, што Курапаты і скандал вакол будаўніцтва рэстарана каля ўрочышча маглі б аб’яднаць апазіцыю. Зянон Пазьняк з такім меркаваннем не згаджаецца: “Ахвяры з катамі не яднаюцца. Гісторыя ўжо 24 гады сведчыць аб гэтым. Нашчадкі расстраляных ніколі не аб’яднаюцца з нашчадкамі тых, хто іх забіваў”.

Зразумела, што гэтыя заявы папулісцкія, але гучныя. Маеш доказы — на стол, не маеш — маўчы. Але Зянон Станіслававіч цяпер змагаецца з прадстаўнікамі беларускага дэмакратычнага руху з такім жа энтузіязмам, з якім раней змагаўся тут, у Беларусі, за беларускае адраджэнне. Мала хто хоча нават уступаць з ім у дыскусію, бо толькі наклічаш на сябе новую порцыю гневу. Тым не менш некаторыя палітыкі наконт апошніх заяў Зянона Станіслававіча выказаліся.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

РЭЗАНАНС

**Сяргей КАЛЯКІН,** лідар партыі “Справядлівы свет”:

“Пазьняк — вольны грамадзянін, жыве ў дэмакратычнай краіне за межамі сваёй краіны і вольны казаць усё, што прыходзіць яму ў галаву. Але ці мае гэта нейкае дачыненне да рэчаіснасці, да таго, чым жыве краіна, у якіх умовах дзейнічае беларуская апазіцыя? Наўрад ці ён гэта ведае, бо даўным-даўно адарваўся ад радзімы і не разумее, што тут адбываецца. Выказаўся і выказаўся. Ён не з’яўляецца чалавекам, які валодае думкамі беларускага грамадства ці нават думкамі беларускай апазіцыі... Шмат людзей любяць даваць парады, як дзейнічаць. Я ўсё чакаю прыкладу, калі нехта возьмецца і сам зробіць — і я яму скажу дзякуй. А так — балбатня на тэму “вы ўсё робіце няслушна, а як слушна — я вам не скажу”.

**Віктар ІВАШКЕВІЧ,** былы член Партыі БНФ:

“Гэта думка Зянона Станіслававіча, ён яе неаднаразова выказваў, але я з ёй не згодны. Існуе шмат людзей, якія працягваюць змагацца, ахвяруюць сабой, здароўем, воляй, каб нешта ў краіне змяніць. А не проста асуджаюць усіх іншых, што тыя не так усё робяць. Што называецца — „прыйдзі і пакажы, як трэба”. Калі ўдасца Пазьняку зрабіць лепей, мы прызнаем: „Так, мы памыляліся, а вось дзе сапраўдны герой”. А проста ўсіх абзываць — гэта ўжо і нецікава слухаць”.

Большасць палітыкаў увогуле адмаўляюцца каментаваць заявы Зянона Пазьняка.

ДАТА



# Залаты Колас беларускай зямлі

*Заўтра, 3 лістапада, — 130 гадоў з дня нараджэння Народнага песняра, класіка нацыянальнай літаратуры* ***Якуба Коласа****. Такі літаратурны псеўданім сялянскі сын Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч узяў нездарма. Як колас з хлебнай нівы, як жывы струмень з глыбіняў роднай зямлі, узяў пачатак і ўзрос яго магутны дар — дар усепаглынальнага служэння народу сваім непараўнальным талентам, усімі сіламі душы і сэрца. У самыя цяжкія часы і ў час спялення светлых надзей на будучыню ён быў заўжды са сваёй Бацькаўшчынай, падзяляў яе лёс.*

*Ты ніколі не звянеш, Колас зямлі беларускай! І мы, і нашы дзеці, унукі і праўнукі ніколі не забудзем цябе, тваё чараўнічае слова!*

## Не бядуй!

*Не бядуй, што сонца нізка,*
*Што прыходзіць нудны дзень,*
*Не бядуй, што восень блізка*
*І на дол кладзецца цень.*

*Не бядуй, што снег халодны*
*Скрые землю ад вачэй:*
*Не загіне край твой родны*
*У тэй цемені начэй!*

*Будзе час, і снег растане,*
*Прыйдзе зноў да нас вясна,*
*Ветла з неба сонца гляне,*
*Ачуняе старана.*
*....................................*

*Дымам пойдзе ўсё ліхое,*
*Усё, што душыць нас і гне.*
*Вер, брат, — жыцце залатое*
*Будзе ў нашай старане.*

1907

ДА ЎВАГІ!

## Праезд у грамадскім транспарце падаражэе

Кошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска ў 2013 годзе перавысіць 2 тысячы беларускіх рублёў. Такая норма змяшчаецца ў праекце бюджэту горада на будучы год, які разглядаўся на пасяджэнні Мінгарвыканкама. Пры гэтым насельніцтва будзе аплачваць толькі 40% выдаткаў на арганізацыю транспартнага абслугоўвання. Сёння адна паездка ў аўтобусах, тралейбусах, трамваях і метро абыходзіцца мінчанам ў 1,7 тыс. рублёў, кампенсуецца 33,4% выдаткаў транспартных арганізацый.

*“Улічваючы палітыку стрымлівання коштаў, а таксама рост выдаткаў на набыццё гаручазмазачных матэрыялаў, у 2013 годзе сярэдні тарыф на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце запланаваны ў памеры 2 тыс. 40 рублёў”,* — адзначыў начальнік фінансавага ўпраўлення Мінгарвыканкама **Аляксандр Кернажыцкі.**

Паводле яго слоў, трэба працаваць над укараненнем электроннага праязнога білета. Дарэчы, на гэта ў праект бюджэту закладзена каля 137 млрд рублёў.

ДИПКУРЬЕР

## Итан ГОЛДРИЧ:

# «Я увидел Беларусь в трех измерениях и в полном цвете...»

*Временный поверенный в делах США в Беларуси Итан Голдрич — человек невероятно позитивный. И на первый взгляд кажется, что он воспринимает реальность как большой оптимист — с улыбкой и надеждой. И верит: все обязательно будет хорошо, потому что иначе и быть не может!*

*На днях дипломат ответил на несколько вопросов “Народной Воли”.*

### К некоторым вещам приспособиться невозможно

**— От иностранцев, которые впервые приехали в Беларусь, не раз приходилось слышать: мол, вначале начитались про вашу страну всяких ужасов в интернете, а потом увидели, что здесь, оказывается, не все так страшно. У вас было похожее ощущение?**

— Мне кажется, та информация о Беларуси, которую иностранцы чаще всего видят в интернете, касается прежде всего политических аспектов. И она на самом деле дает неполное, я сказал бы, двухмерное представление о стране. Приехав сюда, я увидел Беларусь в трех измерениях и в полном цвете. Понял, что это очень красивая страна с милыми людьми. Минск — развитый город с интересной архитектурой и красивыми парками, богатой культурной жизнью. Это было приятное открытие.



Итан Голдрич во время посещения Брестской крепости.

До своего приезда я был прекрасно осведомлен о политической ситуации в Беларуси. И с этой точки зрения, когда смотрю на вашу страну, вижу, насколько более комфортной и приятной она могла быть, если бы здесь произошли экономические и политические реформы. Потенциал страны можно было бы реализовать более полно, как это происходит, например, в соседних странах. И я думаю, что при условии проведения в Беларуси экономических и политических реформ негативной информации в интернете о политических репрессиях, экономической стагнации и прочем поубавится. И гораздо больше людей приехало бы в Беларусь, чтобы увидеть страну своими глазами.

**— Вы живете в Минске около трех месяцев. Более-менее освоились?**

— Пожалуй, да. Я уже выезжал за пределы Минска: был в Бресте, посетил Мир, Несвиж, Гомель. И у меня такое чувство, что я начинаю узнавать страну, — и, что очень важно, не только столицу, но и регионы.

Сейчас мы с женой обустраиваем здесь свой быт: разбираемся, где покупать продукты, где заправлять машину... Мы привыкаем, обживаемся, знакомимся, в том числе и с соседями.

Что касается профессиональной деятельности, то есть моменты, к которым я не хочу приспосабливаться.

В частности, не хочу привыкать к тому, что посольство работает с ограниченным штатом сотрудников. Сейчас в нем пять американских дипломатов, а объем работы таков, что в нормальной ситуации их должно быть больше. На мой взгляд, при большем штате американских сотрудников посольство могло бы намного больше делать для Беларуси и белорусско-американских отношений.

В этом плане я не хочу привыкать, не хочу думать, что так будет на всем протяжении моего пребывания здесь. Надеюсь, что обстоятельства изменятся и этот аспект моей профессиональной жизни тоже.

*(Окончание на 2-й стр.)*

## Дажджы, але не холадна

Паводле прагнозу Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, у суботу, ***3 лістапада,*** па краіне пахмурна з праясненнямі. Ноччу на большай частцы тэрыторыі, днём месцамі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ноччу плюс 1—6°С, днём плюс 5—10°С, па паўднёвым захадзе да плюс 12°С.

***4 лістапада*** пахмурна з праясненнямі. Месцамі кароткачасовыя дажджы, слабы туман. Вецер паўднёвы, паўднёва-заходні 5—10 м/с, днём парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ноччу плюс 1—6°С, днём плюс 6—11°С, па поўдні да плюс 13°С.

РАКІРОЎКА

# Ці патушыць полымя скандалаў у беларускім спорце «пажарны» Шамко?

Прызначаны новыя кіраўнікі беларускага спорту. У адстаўку адпраўлены міністр спорту **Алег Качан** і памочнік па справах фізкультуры і спорту **Ігар Заічкоў**.

*“Раскажыце, Алег Леанідавіч: якія ж прычыны прывялі да такой катастрофы ў ваш перыяд кіравання?* — спытаў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся на Алімпійскім сходзе да цяпер ужо былога міністра спорту Алега Качана. — *Усё можаце расказваць: пра асабнякі, якія вы будуеце за кошт спартыўнай галіны, дарэчы, з памочнікам, можа, з адным, з другім віцэ-прэзідэнтам. Усё расказвайце! Нашым людзям цікава будзе паслухаць... Рыхтуючыся да Алімпійскага сходу, я паралельна даручыў Камітэту дзяржкантролю і іншым структурам праверыць, як жа вы рыхтаваліся да галоўных стартаў чатырохгоддзя. Вынікі сумныя. Аказалася, што праз бяздзейнасць службовых асоб Мінспорту частка вострa неабходнага інвентару была закуплена напярэдадні, падчас і нават пасля Алімпіяды! Алімпіяда прайшла, а яны закупілі абсталяванне, каб алімпійскіх чэмпіёнаў рыхтаваць. Больш за паўмільярда рублёў прастойвае цяпер. А сёння выступаў спецыяліст па конях, там нямэтавага выкарыстання каля 600 мільёнаў рублёў выяўлена! Праўда, Заічкоў гэта з даклада прэзідэнта прыбраў і выхваляўся свайму памагатаму: “Ты не хвалюйся, я выкрасліў!” Ды вас толькі за гэта трэба ўзяць і выгнаць з працы. І не рабіце выгляд, што гэта не так!”*

І вось — кадравы пературс. Міністрам спорту стаў **Аляксандр ШАМКО** *(на фота)*, які да гэтага ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях курыраваў зборную каманду па пажарна-ратавальным спорце, якая чатыры разы была чэмпіёнам свету.

— Аляксандр Шамко і сам спартыўны чалавек, — распавядаюць мне ў МЧС. — Заўсёды выступаў на лыжні, калі спаборнічалі каманды дзяржаўных структур. Даволі добра выступаў.

**Максім РЫЖАНКОЎ** прызначаны памочнікам прэзідэнта Беларусі па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму. Раней ён працаваў начальнікам упраўлення знешняй палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта. Сын першага беларускага міністра спорту Уладзіміра Рыжанкова.

А віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта будзе **Ігар РАЧКОЎСКІ**, які яшчэ не так даўно (*да справы са” шведскім дэсантам”.* — **Аўт.**) узначальваў Памежны камітэт Беларусі, а зараз кіруе Беларускай федэрацыяй паруснага спорту.

Зрэшты, гэтым людзям не пазайздросціш. У нейкім сэнсе яны — чарговыя ахвяры, якіх кінулі на барыкады. Ужо цяпер букмекеры могуць рабіць стаўкі на тое, колькі часу спартыўныя чыноўнікі пратрымаюцца на сваіх пасадах. Бо Міністэрства спорту ў апошні час і на самай справе стала ведамствам па надзвычайных сітуацыях, якое не перастаюць скаланаць скандалы. Ці патушыць полымя гэтых скандалаў “пажарны” Шамко? Час пакажа.

— Прызначаючы менавіта гэтых людзей на новыя пасады, кіраўнік краіны, напэўна, разлічвае, што якасці, якія выпрацаваліся ў сілавых структурах у таго ж Шамко, Рачкоўскага, дапамогуць і ў спартыўнай галіне, — сказаў “Народнай Волі” былы міністр спорту **Юрый СІВАКОЎ.** — Бо і на самай справе ў работу неабходна ўнесці элементы арганізаванасці, прыстойнасці...

**— Што, на ваш погляд, сёння ў першую чаргу неабходна беларускаму спорту, каб мабілізавацца?**

— Неабходна стварыць сістэму. Як у любой арганізацыі, якая імкнецца быць эфектыўнай. Павінны быць умовы для трэнераў, спартсменаў, развіцця спартыўнай медыцыны.

**— Зараз такой сістэмы няма?**



— Як ні сумна, але няма. Ёсць нейкія эпізоды, няроўныя рухі, мітусня... Вось і вынік. Людзі, якіх кіраўнік краіны прызначыў на пасады, павінны стварыць сістэму.

**— Не так даўно вы казалі, што сёння спортам павінны кіраваць такія прафесіяналы, як Святлана Парамыгіна, Уладзімір Парфяновіч, Віталь Шчэрба...**

— Я і зараз не адмаўляюся ад сваіх слоў. І, калі Шамко разумее сутнасць усіх працэсаў, то ён падбярэ сабе намеснікаў менавіта з гэтай катэгорыі людзей.

**Алесь СІВЫ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

У мінулым нумары "Народнай Волі" ўся першая паласа была прысвечана трагічна-сумнай сітуацыі, якая склалася ў Магілёве з трэцякласніцай Ялінкай Салаўёвай. Дзяўчынка засталася адна ў адзіным ва ўсім горадзе беларускамоўным класе.

Нельга пагадзіцца як з пазіцыяй чыноўнікаў, так і з пазіцыяй прадстаўнікоў некаторых дэмакратычных структур. Кіраўнік гарадской арганізацыі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" **Алег Дзьячкоў** заявіў: *"Бацькі баяцца, што ў беларускамоўных дзяцей не будзе ніякіх перспектыў. У нас ніводнай вышэйшай беларускамоўнай навучальнай установы. Па-другое, яны баяцца, што будуць цяжкасці з навучаннем..."* Скажыце, спадар Дзьячкоў, а што вы асабіста зрабілі, каб пераканаць "баязлівых бацькоў" у памылковасці іх меркаванняў? Будзем шчырымі: ваша грамадская дзейнасць, як і дзейнасць многіх вашых сяброў па мясцовых суполках ГА "Таварыства беларускай мовы", у гэтым накірунку мае чыста фармальны характар. Ніхто ніколі не паверыць у тое, што ў горадзе з амаль 400-тысячным насельніцтвам няма сямей, якія пры пэўнай тлумачальнай рабоце не пагадзіліся б аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Але ж з імі ніхто — ні тутэйшыя ўлады, ні палітычныя партыі, ні грамадскія арганізацыі — ушчыльную не працуюць. Прачытайце інтэрв'ю спадара **Алеся Лозкі**. Ён, старшыня ГА "Таварыства беларускай школы", *"толькі зараз даведаўся, што ў беларускамоўным класе ў Магілёве навучаецца толькі адна дзяўчынка"*. Прыкра чуць гэта з вуснаў чалавека, які лічыцца грамадскім дзеячам. І шкада, што такіх "дзеячаў" у нас шмат. Вялікая колькасць шыльдаў, пасад, імёнаў — і мізэрнасць канкрэтнай работы. А таму маем тое, што маем. Калі не паставімся сур'ёзна да вырашэння лёсавызначальных праблем, то сапраўды ў хуткім часе беларусы заб'юць апошні цвік у сваю дамавіну.

Друкуючы сёння інтэрв'ю з дырэктарам сталічнай беларускамоўнай гімназіі №23 **Нінай Іванаўнай Нікіцінай**, мы спадзяёмся, што ў Магілёве звернуць увагу на яе аўтарытэтныя меркаванні.

**"Народную Волю" хвалюе лёс Ялінкі Салаўёвай.**
**"Народную Волю" хвалюе лёс усёй нашай Беларусі.**

РУБАМ!

# Ці ведаеце Вы пра сітуацыю ў Магілёве і як яе змяніць?

## *Уладзімір КОЛАС, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі:* *«Калі Ялінка падрасце, дапаможам ёй на ліцэйскім узроўні»*

— Я ведаю пра тое, што ў Магілёве ў адзіны беларускамоўны клас ходзіць адна вучаніца, але, на вялікі жаль, у канкрэтным выпадку наша Рада не мае ніякіх рычагоў уплыву. Сітуацыя можа змяніцца толькі на дзяржаўным узроўні. Калі дзяржаўная палітыка будзе павернута ў бок Беларусі, а не ў бок здачы нацыянальных інтарэсаў, то і нам тады не трэба нешта рабіць. Мы можам, безумоўна, падключацца да справы, але дапамога будзе крыху іншага кшталту. Зараз мы робім толькі тое, што можам рабіць. Але, калі тая ж Ялінка Салаўёва падрасце, мы зможам яе вучыць на беларускай мове на ліцэйскім узроўні. Зрэшты, сітуацыя, што склалася, — гэта яшчэ і пытанне самасвядомасці, сумлення і годнасці беларусаў. Як ні прыкра казаць, але з гэтым у нас таксама вялікія праблемы. Людзі самі павінны пра гэта думаць, ім самім павінна балець, але яны адвярнуліся ад мовы. Мая жонка днямі пайшла на пошту рабіць перавод грошай, дык запоўнены на мове бланк адмовіліся прымаць. Ды яшчэ і ў чарзе пачалі абурацца, што жонка настойвае на сваім. Што тут ужо казаць пра школы?

**— Але, можа, было варта прадстаўнікам Рады з'ездзіць у Магілёў, пагутарыць з бацькамі вучняў, пераканаць, каб яны аддалі дзяцей у беларускамоўны клас?**

— Дык у нас жа ёсць Таварыства беларускай мовы... А ў Рады крыху іншыя задачы, хоць нашы сябры таксама стараюцца папулярызаваць мову.

## *Алесь ЛОЗКА, старшыня ГА «Таварыства беларускай школы»:* *«У беларускамоўным класе адзін чалавек? Для мяне гэта навіна»*

— Шчыра кажучы, толькі зараз даведаўся, што ў беларускамоўным класе ў Магілёве навучаецца толькі адна дзяўчынка. У мінулым годзе там, здаецца, была іншая сітуацыя. Але хачу адзначыць, што дзяржаўныя ўстановы не заўсёды выконваюць пастанову Міністэрства адукацыі, згодна з якой трэба падтрымліваць беларускамоўныя класы.

**— Што можна зрабіць для таго, каб змяніць сітуацыю ў Магілёве?**

— У нас там ёсць рэгіянальная суполка. Па сутнасці, гэта бацькі. Таму, напэўна, яны зробяць усё магчымае, каб былі беларускамоўныя класы. Але паўтаруся, для мяне стала навіной, што ў Магілёве ў беларускамоўным класе застаўся толькі адзін чалавек.

**— Можа, у такім выпадку да сваёй грамадскай работы трэба ставіцца больш крытычна?**

— Так, нам трэба працаваць у гэтым накірунку больш актыўна. Ды і не толькі нам, але і іншым грамадскім аб'яднанням.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Віна ўсіх нас — бацькоў, настаўнікаў, можа, нават арганізатараў адукацыйнай сістэмы. Проста ўсяго грамадства»

## *У 23-й сталічнай гімназіі з беларускай мовай навучання не стаіць пытанне наконт набору дзяцей у роднамоўныя першыя класы.*

*Дык у чым сакрэт такога "феномену"? Як сталася, што сёлета, напрыклад, абодва першыя класы цалкам укамплектаваны дзецьмі, якія ўвесь школьны курс будуць спасцігаць па-беларуску? Ці не перашкаджае такі "ўхіл" выпускнікам, якія затым паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, — там жа скрозь рускамоўныя праграмы і выкладчыкі?..*

*Каб ва ўсім разабрацца і атрымаць адказы, спяшаюся ў 23-ю гімназію на сустрэчу з яе дырэктарам* ***Нінай Іванаўнай НІКІЦІНАЙ****...*

Але напачатку колькі слоў пра саму гімназію. Яна, лічы, у самым цэнтры сталіцы — побач з плошчай Якуба Коласа і Белдзяржфілармоніяй. Да вайны, у саракавых, тут месцілася вучылішча па падрыхтоўцы ваенных лётчыкаў. Курсанты з самых першых дзён вайны абаранялі Мінск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў... Зараз 23-я сталічная гімназія — адзіная школа ў Беларусі, дзе вучні спасцігаюць яшчэ і... кітайскую мову.

І вось утульны, светлы дырэктарскі кабінет. Гутарым з Нінай Іванаўнай...

Першае маё пытанне (адносна таго, колькі сёлетніх выпускнікоў паспяхова здалі іспыты і паступілі ў ВНУ) некалькі здзівіла маю субяседніцу. Ніна Іванаўна адказала пытаннем на пытанне:

— А чаму вы не запыталіся для пачатку, колькі ж дзяцей прыйшло цяперашняй восенню ў першы клас?

**— І гэта мне цікава, але ўсё ж, Ніна Іванаўна...**

— Ды з паступленнямі ў ВНУ ў нас ніколі не існавала праблем. Амаль кожны год 95 працэнтаў нашых выпускнікоў становяцца першакурснікамі. І ў мінулы год, і сёлета так. Прычым паступаюць не толькі ў сталічныя ўніверсітэты ды інстытуты, але і ў маскоўскія, варшаўскія, нават далей... Родная мова не замінае, калі вы пра гэта, а наадварот — дапамагае. Увогуле лічу, што праблема з роднамоўем у сталічных школах некалькі надуманая. Чаму? Ну скажыце, калі ласка, хто асабліва замінае бацькам аддаваць сваіх дзетак у беларускамоўныя школы і класы? Пажадаюць бацькі, каб іх дзеці спасцігалі навукі на роднай мове і пачуваліся беларусамі, то няхай і прыводзяць малых у такія школы. Забароны ж ніякай няма.

І тады я расказваю дырэктару школы гісторыю з дзяўчынкай-першакласніцай з Магілёва. Хоча малая вучыцца на роднай мове, а класа ў школе і не знайшлося — усе выбралі рускую мову... Хіба не драма? Ды ўсім вядома, што абсалютная большасць школ — рускамоўныя, што бацькі аддаюць перавагу тым навучальным установам, дзе ўсё ці амаль усё выкладаецца па-руску. Як быць? Чаму гэткая непавага да свайго?..

— *Мне больш за ўсё шкада тую дзяўчынку,* — працягвае тэму Ніна Іванаўна — яна ж крайняя атрымліваецца. А на самай справе віна ўсіх нас — бацькоў, настаўнікаў, можа, нават арганізатараў адукацыйнай сістэмы. Проста ўсяго грамадства... Ну ўявіце: як гэтая дзяўчынка будзе пачувацца сярод равеснікаў?.. Так можна нашкодзіць псіхіцы, падарваць веру да дарослых... Няўжо ў Магілёве ніводнай школы, дзе вучылі б дзятву на роднай мове?! Проста дзіўна...Сітуацыю трэба ратаваць, але так, каб не прынізіць нічыёй годнасці — ні першакласніцы, ні бацькоўскай. Ну не павінна так быць!

**— Але ж пагадзіцеся, Ніна Іванаўна, праблема ёсць: беларусы — без дай прычыны — арыентуюцца на рускамоўе. Жывую, родную гаворку мала дзе чуваць, так можна канчаткова страціць сябе, сваю ідэнтычнасць і ўрэшце самапавагу. Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі ўсё пачыналася са школы, а заканчвалася стратай... нават сваёй дзяржаўнасці.**

— Ведаеце, не варта перабольшваць. Па-першае, мова жыве і жыцьме — пакуль ёсць беларускі народ. Сядзьце ў цягнік і ўжо там пачуеце нашу мову: няхай трасянку, няхай з рознымі дыялектамі — але яна жывая... Паедзьце ў Брэсцкую вобласць ці на Палессе — і там яна гучыць. Жывая, гутарковая мова перадаецца ад бацькоў дзецям, яна не можа знікнуць па чыёйсьці волі. Так не бывае. Іншая справа, што ў гарадах памяняліся каштоўнасныя арыенціры — ад недасведчанасці многіх учарашніх вяскоўцаў, часам ад неадукаванасці. Тут і сапраўды праблема. Але зноў жа прыходзіць разуменне, асабліва ў век нечуванай мабільнасці, што валоданне не толькі роднай мовай, але і замежнымі — вялікае багацце, што яно не прыхамаць, а патрэба часу. Таму моладзь зараз актыўна вывучае еўрапейскія мовы і нават кітайскую, турэцкую. І гэта варта вітаць. Вось зараз мы чакаем візіту латвійскіх беларусаў з Рыгі, пасля яшчэ польскіх беларусаў з Бяла-Падляскага ваяводства — у нас добрыя сяброўскія сувязі. І ў Латвіі, і ў Польшчы жыва цікавяцца не толькі беларускай культурай, але і вывучаюць нашу мову як замежную. І алімпіяды ў іх па мове праводзяцца, і дысертацыі пішуцца, словам, мова беларуская жыве ў замежжы. То чаго ўжо так панікаваць — трэба проста выхоўваць сваіх дзяцей у павазе да роднага, значыцца, і да матчынага слова. Гэта па-першае...

**— А па-другое?..**

— Па-другое, шмат што залежыць не толькі ад бацькоў, але і ад настаўнікаў... Чаму ў нашу гімназію вядуць першакласнікаў? Верагодна, таму, што тут працуюць не фармалісты, не тыя, каму абы дзень да вечара... Я заўсёды заклікала сваіх калег словам і справай лучыць да беларускасці ўсіх, хто навокал, — дзяцей, іх бацькоў, тых, хто жыве з вамі на адной лесвічнай пляцоўцы, сяброў, знаёмых і малазнаёмых. І тады будзе плён. Менталітэт жа беларусаў — а ён, на жаль, такі, які ёсць, — склаўся не сам па сабе, былі мусіць гістарычныя ці нейкія іншыя прычыны. Значыцца, трэба рабіць нейкія высілкі — над сабою, над сваёю лянотаю, абыякавасцю да ўсяго. Толькі так і выйдзем на прасцяг.

Па праўдзе, мяне здзіўляе вось яшчэ што... Некаторыя нашы суайчыннікі думаюць прыкладна так: калі я размаўляю на мове, то гэта ледзь не геройства, ледзь не ўвесь свет павінен мяне за гэта паважаць... Таксама дзіўная і недарэчная пазіцыя. Сёння ў павазе людзі, якія свабодна валодаюць не адной мовай, а некалькімі. А чаму? Таму, што гэта ёсць сапраўднае інтэлектуальнае багацце, гэта вароты, якія адчыняюць свет. Моладзь, наша дзятва разумее тое нашмат больш, чым мы ў сваім маленстве і нават у маладосці. Некалі ў нашых вясковых школах — што тут хаваць — замежныя мовы выкладалі дрэнна. То хай хоць дзеці нашыя і ўнукі натоляцца гэтым багаццем, а мы зробім усё, каб беларуская моладзь была ў шэрагу самых адукаваных. Але паўтаруся, перадусім варта ведаць як след родную мову — яна прыступка да ўсяго астатняга. Гэта важна разумець не толькі настаўніцтву, але перадусім бацькам нашых дзяцей.

**Георгій ЧЫГІР.**

РЭХА

## *У беларускамоўных дзяцей вялікая перспектыва...*

Я прачытаў у "Народнай Волі" падборку "Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну?", і сэрца закалацілася ад болю. Губляем апошняе, што можна згубіць, — дзяцей, іх будучыню. Кім яны вырастуць без роднай мовы? Манкуртамі. Людзьмі без Бацькаўшчыны, без сваіх адметных рысаў, натуральных каранёў.

Вінаваты сённяшнія ўлады, але ж не менш вінаваты і тыя, хто грукае ў грудзі і безупынна сцвярджае, што стаіць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння, а на самай справе нічога не робіць. Сваю пустэльнасць апраўдвае дэмагогіяй, балбатнёй. Ці ж можна аргументаваць сітуацыю ў Магілёве такім чынам, як гэта зрабіў спадар Дзьячкоў: *"Бацькі баяцца, што ў беларускамоўных дзяцей не будзе ніякіх перспектыў"*? Якое глупства! Я магу прывесці сотні прыкладаў, калі хлопцы ці дзяўчаты, якія вучыліся ў беларускамоўных школах, паспяхова скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, добра ўладкаваліся на працу і сталі сапраўды інтэлігентнымі людзьмі.

Я, напрыклад, у захапленні ад таго ж Паўла Латушкі, сённяшняга міністра культуры. Ці ж пашкодзіла яму ў жыцці веданне беларускай мовы? Думаю, наадварот, толькі дапамагло. Адчуваецца, ён добра ведае беларускую літаратуру, нацыянальную гісторыю, культуру. Цывілізаваны прадстаўнік свайго народа, сваёй краіны. Наколькі Беларусь была б багацейшай, калі б усе мы цягнуліся да сваёй роднай мовы, да сваіх каранёў.

Так, сёння ў краіне няма ўніверсітэтаў, інстытутаў, акадэмій, дзе выкладанне амаль усіх прадметаў вялося б на беларускай мове. Але ж я перакананы ў тым, што хутка сітуацыя зменіцца. А таму беларускамоўных дзяцей чакае вялікая перспектыва.

Дарэчы, я патэлефанаваў у некаторыя мінскія беларускамоўныя гімназіі, а таксама ў тыя школы, дзе ёсць беларускамоўныя класы, і пацікавіўся, як іх выпускнікі здаюць тэсты і якая колькасць паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. І быў па-добраму здзіўлены, калі даведаўся, напрыклад, што амаль усе тыя, хто вучыўся ў Нацыянальнай беларускамоўнай гімназіі, што па вуліцы Матусевіча, паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Таму я абсалютна не разумею бацькоў, якія аддаюць сваіх дзяцей у рускамоўныя класы.

"Народная Воля" высвеціла балючую тэму. Але я упэўнены, што мы выратуемся ад манкуртства. І беларуская мова сапраўды стане нашай роднай мовай.

**Пётр КЕРНАЖЫЦКІ,**
**былы службовец.**
*Мінск.*

## *Загубяць мову — загубяць дзяржаву!*

Я лічу, што сённяшнія ўлады сталі на злачынны шлях: прыкрываючыся як быццам пазіцыяй бацькоў, яны мэтанакіравана знішчаюць беларускую мову. Дзясяткі гадоў ва ўсіх вясковых школах выкладанне вялося толькі па-беларуску. Хто адмяніў такі падыход? Настаўнікі? Вядома ж, не. Спачатку мінскія камуністы, якія кіравалі рэспублікай і ў рот глядзелі маскоўскім бальшавікам, пайшлі на злачынны крок, а потым эстафету ад іх пераянялі тыя, хто сёння пры ўладзе.

Калі б бацькі адчувалі сапраўдную зацікаўленасць дзяржавы ў адраджэнні беларускай мовы, яны б па-іншаму падыходзілі да вырашэння пытання, у якіх класах, у якіх школах павінны вучыцца іх дзеці. Не было б той сітуацыі, якая ўзнікла ў Магілёве.

Але я скажу: калі нашы гораўладары знішчаюць родную мову, яны тут жа знішчаюць і саму дзяржаву. І іх далейшы лёс будзе незайздросным.

**Віктар УХВАЛЁЎ,**
**беларус.**

ДИПКУРЬЕР

*Итан ГОЛДРИЧ:*

# «Я увидел Беларусь в трех измерениях и в полном цвете...»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*



**Вместе с супругой во время экскурсии во дворце Румянцевых—Паскевичей в Гомеле.**

## Проблемы нужно обсуждать

**— Как думаете, удастся ли вам нормализовать отношения между нашими странами?**

— Я говорил бы об улучшении отношений, потому что "нормализация" — это особый термин, особое понятие в дипломатическом языке. А вот улучшение — та цель, которой можно достигнуть. Мы говорим об улучшении отношений с правительством и о расширении взаимодействия со всем спектром общества. На мой взгляд, роль хорошего посольства заключается в представлении своей страны для всех сфер общества — и правительства, и политической оппозиции, и средств массовой информации, и культуры, и экономики. Наша главная задача — поддерживать контакт и улучшать отношения со всеми представителями общества.

**— Вы согласны с мнением, что сегодня белорусско-американские отношения находятся на очень низком уровне?**

— Им есть куда развиваться, скажем так. Мне кажется, ни одна из сторон не будет утверждать, что сейчас отношения замечательные. Думаю, обе страны в идеале хотели бы иметь отношения на совершенно другом уровне. Но с точки зрения Соединенных Штатов для этого должны произойти вполне определенные вещи.

Когда любой американский чиновник говорит об отношениях с Беларусью, первый аспект, который затрагивается, — это необходимость освобождения политических заключенных. И полное восстановление в гражданских правах тех политзаключенных, которые уже были освобождены. Выполнение этих условий может вернуть страны в период отношений до президентских выборов в Беларуси 2010 года.

В 2010 году госсекретарь Хиллари Клинтон встретилась с тогдашним министром иностранных дел Сергеем Мартыновым, они выступили с совместным заявлением и подтвердили, что ситуация с демократией и правами человека в Беларуси остается центральной темой в вопросе улучшения двусторонних отношений и является жизненно важной для развития страны и ее граждан.

С точки зрения Штатов — это тот путь, который необходим для улучшения наших взаимоотношений.

Но даже при наличии таких отношений, которые существуют сейчас, должна быть возможность для взаимодействия двух правительств и нахождения практических решений, которые касаются вполне определенных аспектов. На мой взгляд, необходимо обсуждать существующие проблемы и вопросы. Не думаю, что надо смириться с ситуацией, потому что есть реальная возможность ее изменить.

**— Вы следили за парламентской избирательной кампанией? Как можете прокомментировать тот факт, что никто от оппозиции не попал в Палату представителей?**

— Я следил за ходом избирательной кампании, и у меня была возможность посетить 9—10 избирательных участков. Мои наблюдения соответствуют тем выводам, которые озвучили представители ОБСЕ.

ОБСЕ отметила проблемы в ходе избирательной кампании и непосредственно в день голосования. Оппозиционные кандидаты не могли достаточно свободно проводить свои кампании, не могли в эфире сказать все то, что хотели бы. В заявлении нашего правительства о прошедших в Беларуси парламентских выборах говорилось, что выборы не соответствовали международным стандартам и их проведение не может считаться свободным и справедливым.

Лично меня поразило то, как формировались участковые избирательные комиссии. Как говорит избирательная статистика, в стране 69.000 членов участковых избирательных комиссий, и из них всего 60 человек были представителями оппозиции. Состав комиссий не был сбалансированным, а это значит, что в избирательном процессе не была представлена другая часть общества.

## Большие перемены на личном фронте

**— Итан, а чем вы интересуетесь, кроме политики?**

— Мне нравится читать исторические и художественные произведения.

Обожаю путешествовать, смотреть на достопримечательности, делать фотографии.

Люблю ходить в кино и театры, на концерты (в этом смысле в Беларуси много возможностей). И, естественно, проводить время со своей семьей.

**— В Минск вы приехали вместе с женой. Супруге приглянулось новое место жительства? Кстати, кто она по профессии и чем занималась до переезда сюда?**

— Рэнди здесь нравится. Мы недавно поженились — в июне. Для нас обоих это второй брак. До приезда в Беларусь я жил во многих странах, а для нее это первая возможность пожить за пределами США.

Моя супруга не была связана с политикой и правительственными институтами. Она работала в частном секторе в сфере недвижимости, была администратором жилого комплекса. Безусловно, для нее наш переезд сюда — большая перемена в жизни, но ей очень нравится. Она, конечно, скучает по своей семье и с нетерпением ждет возможности встретиться с родными, но, если не считать этого, она здесь счастлива.

**— А дочери?**

— Девочки не живут в Беларуси, а приезжают сюда в гости. У нас есть еще третья дочка. Она еще не была в Беларуси, но в ближайшее время должна приехать. Ей 18 лет.

**— Я так поняла, что у вас дети от разных браков?**

— Самая старшая — дочь моей жены от первого брака, а две 14-летние девочки — мои дочери от первого брака, они приезжали сюда летом.

**— Ваша первая покупка в Минске — это...**

— Кошачья еда. Дело в том, что с нами в Минск приехала еще и кошка. За время длительного перелета она сильно проголодалась, и срочно понадобился корм...

**Марина КОКТЫШ.**



**На детском утреннике в честь праздника Хэллоуин.**

